DISTRICTUS

# ПАВЕТ

Pala: de Braslaw

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 4 (17) КРАСАВІК 2003 г.

## ВЕСТКІ

На сцяне будынка раённага вузла сувязі, каля самага ўвахода з'явілася прыгожая дошка. У метале адліты два надпісы: "Да Мінска 238 км, да Віцебска – 220 км". Гэта – дзяржаўны эталон адлегласці паміж Браславам і сталіцай краіны і абласным цэнтрам. Доўгі час звесткі пра адлегласць паміж імі нават у атласах і даведачнай літаратуры адрозніваліся, не сказаць каб на шмат – на адзін-два дзесятак кіламетраў. Здаецца, зараз у гэтым пытанні пастаўлена кропка.

❒ ❒ ❒

У Друйскай сярэдняй школе пачаў працаваць клуб аматараў даўніны, які аб'ядноўвае 17 вучняў 4-8 класаў. Кіруе клубам настаўнік Міхаіл Ставіцкі. Удзельнікам клуба ёсць над чым працаваць, бо Друя – самы цікавы ў гістарычным сэнсе населены пункт Браслаўшчыны, колішні горад з Магдэбургскім правам, з багацейшай архітэктурнай спадчынай. Клуб праводзіць асноўную працу па афармленню школьнага гістарычнага музея, які плануецца адчыніць у красавіку бягучага года. На конкурс "Нам засталася спадчына", арганізаваны беларускай арганізацыяй Зялёны Крыж, клуб прадставіў працу "Вяртанне Друйскага каменя". У ёй прапануюцца тры варыянты размяшчэння ў Друі Барысавага каменя з крыжом і надпісам XII ст., добраўпарадкавання прылягаючай тэрыторыі. Прадстаўлена тэкставая частка і два аб'ёмныя макеты. Найбольш актыўна ў гэтай справе ўдзельнічалі вучні Саша Спургяш і Саша Корсак.

## УСМІХАЙЦЕСЯ ЧАСЦЕЙ – І ЖЫВІЦЕ ДОЎГА!

Яшчэ ў даўнія часы людзі заўважылі, што смех станоўча ўплывае на агульны стан чалавека. Пазней з'явіўся тэрмін смехатэрапія – падтрыманне добрага тонуса пацыента з дапамогай смеха. Наўрацце славуты браслаўскі лекар Станіслаў Нарбут свядома ўжываў прыёмы смехатэрапіі, але па шматлікіх сведчаннях ён імкнуўся падтрымліваць добры настрой ў сваіх пацыентаў. Нарбут запомніўся як жартаўнік, жыццялюб. Звычайна яго бачылі вясёлым, гатовым у любую хвілі пажартаваць ці падтрымаць жарт. У кампаніях вакол лекара ўзнікала вясёлая валтузня. Доўгі час сярод жыхароў Браслаўшчыны хадзілі розныя жартаўлівыя гісторыі, звязаныя з Нарбутам. Лекар быў ініцыятарам выдання ў Браславе гумарыстычнага і сатырычнага тыднёвіка "Дух Браслаўца". Ёсць паданне, што С.Нарбут доўгі час шукаў рэцэпт эліксіра вечнай маладосці. Нібыта ён быў напісаны ў самыя апошнія імгненні жыцця, але так і не прачытаны пахаваны побач з лекарам на Замкавай Гары. Калі б такі рэцэпт сапраўды існаваў, то не можа быць каб Нарбут не згадаў бы ў ім смех. Таму: усміхайцеся – і жывіце доўга!

Гэты нумар "Павета" маем надзею прыўзніме вам настрой, бо гумар – яго асноўная тэма.


№ DUCH 19 XII 21
BRASLAWCA

Нумар тыднёвіка «Дух Браслаўца» за снежань 1921 г. На жартаўлівым малюнку першы злева Станіслаў Нарбут

# ВЕСТКІ

20 сакавіка адбыўся абласны злёт юных краязнаўцаў Віцебскай вобласці па напрамку "Прыродная спадчына". Удзельнікамі злёту былі і маладыя даследчыкі Канстанцінскай базавай школы. З працай "Старонкі каменнага летапіса" выступілі Аляшкевіч Вікторыя і Яхімовіч Яна. Журы прызнала працу маладых даследчыкаў найлепшай. Яны занялі 1-е месца ў вобласці і зараз рыхтуюцца да ўдзелу ў фінале III этапа Рэспубліканскай краязнаўчай экспедыцыі "Наш край". Акрамя гэтага, некаторыя знаходкі прызнаны помнікамі прыроды рэспубліканскага значэння (2 аб'екты), а іншыя чакаюць кампетэнтных экспертаў для надання ім гэтага статута. Браслаўскі краязнаўчы музей атрымаў у карыстанне цікавую калекцыю выкапнёвых акамянеласцей.

❐ ❐ ❐

Падведзены вынікі апошняга, чацвёртага завочнага тура раённай краязнаўчай вікторыны. Усе пяць пытанняў тура былі звязаны з імёнем славутага браслаўскага лекара Станіслава Нарбута і прымеркаваныя да яго 150-гадовага юбілея. Большасць пытанняў арыентавала ўдзельнікаў на роздум, уласную ацэнку гэтай яскравай постаці. У многіх працах выказаны вельмі цікавыя думкі.

Лепшыя ўдзельнікі ўсіх чатырох тураў цяпер паспаборнічаюць у заключным вочным туры, які пройдзе 12 красавіка ў Цэнтры дзіцячай творчасці.

❐ ❐ ❐

Да 1 красавіка прымаліся заяўкі даследчыкаў на ўдзел у VI-й навукова-краязнаўчай канферэнцыі "Браслаўскія чытанні", прысвечанай 150-гадоваму юбілею Станіслава Нарбута. Аргкамітэт атрымаў каля 50 тэм дакладаў па розных аспектах гісторыі і культуры Браслаўскага рэгіёна. Актыўны ўдзел у чытаннях возьмуць даследчыкі з Мінска, Гродна, Полацка. Прыйшлі заяўкі з Літвы, Латвіі, Польшчы. Чакаецца прыезд у Браслаў шматлікіх гасцей – нашчадкаў С.Нарбута з Польшчы, прадстаўнікоў зямляцтваў, выхадцаў з Браслаўшчыны, супрацоўнікаў архіваў, музеяў, краязнаўчых арганізацый. Цяпер ідзе фармаванне праграмы чытанняў, якія будуць праходзіць 7-8 мая.

# Усміхнемся разам з Нарбутам



Расказвалі, што яшчэ пры цары аднойчы ў Нарбута здох любімы сабака. Так ён знайшоў нейкую жанчыну, якая за рубель у дзень галасіла па любімцы. Нарбут сябраваў з Плятэрамі, уладальнікамі Бяльмонтаў, але аднойчы ён пасварыўся з графіняй. Калі графіня прыехала да Нарбута, ён не захацеў з ёй размаўляць і паказаў наведвальніцы зад. Графіня звярнулася ў суд. Доктар у судзе тлумачыў, што ў час візіту графіні ён як раз мыў галаву (Нарбут быў зусім лысы), а наведвальніцы падалося, што яна ўбачыла нешта іншае. Суд апраўдаў Нарбута.

* * * * *

Доктар Нарбут вельмі паспяхова лячыў бясплоддзе ў жанчын. Аднаго разу да яго звярнулася незамужняя кабета, якая вельмі хацела мець дзіцё, але не магла зацяжарыць. Нарбут узяўся лячыць яе. Праз нейкі час кабета панесла народжанае дзіцё хрысціць у касцёл. Ксёндз стаў запісваць дадзеныя ў кнігу, пытаецца: "Хто бацька дзіця?" Маці не прызнаецца. Тады ксёндз адмовіўся хрысціць нованароджанага. Пабегла кабета па дапамогу да Нарбута, бо ведала, што ён сябраваў са святаром. Нарбут схадзіў да ксяндза і той паклікаў кабету ў храм. У графе "бацька" святар паставіў прозвішча "Нарбут".

* * * * *

Нарбут часта ездзіў да графіні ў Бяльмонты і выкідваў розныя каленцы. Напрыклад, пад'язджаў да маёнтка ў звычайных сялянскіх санях, у сялянскай вопратцы – зношанай і парванай, без фурмана. Лёкаі абвяшчалі ў гасцёўні – прыехаў Нарбут. Графіня, яе госці выходзілі на ганак, каб павітаць шаноўнага госця і бачылі нейкага абадранца. Раптоўна абадранец скідваў мужыцкую бурку і аказваўся ў парадным убранні. Смяецца графіня, смяюцца госці, задаволена смяецца і Нарбут.

* * * * *

Старыя людзі любілі ўспамінаць пра доктара Нарбута, асабліва пра яго жарты. Па дарозе з Браслава ў графскі маёнтак Бяльмонты Нарбут часам праязджаў праз вёску Азяраўцы. У вёсцы ён закрываў твар маскамі розных жывёл. Цікаўным доктар тлумачыў: "Каб не пазналі, што Нарбут едзе". Доктара ўсюды прыпынялі, запрашалі да хворых, а ён не мог нікому адмовіць.

* * * * *

Бяльмонцкая графіня вельмі любіла жартаваць, мела вясёлы характар. Граф жа заўсёды быў маўклівым, сур'ёзным. Нарбут імкнуўся падтрымаць добры настрой графіні, а яна прымала ўсе яго жарты. Аднаго разу падчас абеду Нарбут надзеў на галаву талерку, у якой напачатку ляжалі бліны. Графіня смяецца ва ўвесь голас, а граф схапіўся за галаву і кажа: "О, вар'ят!"

* * * * *

Сямья Нарбутаў кожны дзень брала ў суседкі малако. Так здарылася, што лекар запамятаў пра чарговы разлік. Суседка пачакала дзень-другі і сама прыйшла па грошы. Нарбут яе ўважліва выслухаў, пярэчыць не стаў і выйшаў у суседні пакой за грашыма. Вярнуўшыся назад, ён павярнуўшыся да суседкі задам, зняў штаны, засунуў некалькі паперчын паміж ног нахіліўся і з жартам прамовіў: "Бяры кабета, не саромейся, яна з'ела - яна і аддасць!" Суседка імгненна выбегла з хаты, а малака Нарбуту больш не давала.

* * * * *

Аднойчы мужык прывёз Нарбуту дровы і назваў кошт, які падаўся лекару завялікім. Спрачацца Нарбут днак не стаў. Ён склаў асігнацыю, павярнуўся да селяніна задам і засунуў паперку паміж ног. Селянін адмовіўся ўзяць грошы, прапанаваныя такім абразлівым чынам. На гэта Нарбут сказаў: "Вось бачыш, ты за грошы не хочаш датыкацца да майго заду, а я бясплатна корпаюся ў вашых вантробах".

Гісторыі запісаны супрацоўнікамі музея ад старажылаў



*Муж да хаты выбіраўся*
*Жонка бліноў напекла*
*Іон вельмі дужа зрадаваўся*
*Аж слінка ему пацекла*
*Пережегнаўся – за стол засеў*
*Ложкай сала насярбаў*
*Бліноў сотню смаглє зіеў*
*І сладкай ікаўкі дастаў*
*Прылог здрамнуць як бывала*
*Жонка кажець – на вакзал*
*Ягоны клункі спакавала*
*А іон качается іак вол*
*Надта спіорлі іаго колікі*
*А бруха граець іак арган*
*Памру крычыць – дай толкі*
*Пакараў мяне шатан*
*Стагнаў, стагнаў аж прарвала*
*Патом схапіла яго стюжа*
*Баба камеі яму дала*
*І водкі с перцам вельмі дужа*
*Абагрэўся – памагло*
*Па папутніка паслаў*
*Яго ў дому не было*
*Даўно на поезд падыбаў*
*Смяется жонка і радня*
*Ці то проява – ці то сны*
*Чекаў бацька другого дня*
*От што зрабілі бліны*

**Жартаўлівы верш на беларускай мове. запісаны лекарам ў альбом дачкі Марыі. 1917 г.**

# ГУМАР 2 ВЫДАННЯЎ ЧАСОЎ С.НАРБУТА

Жонка падыходзіць да акна і кажа: "Ча-мусьці месяц схаваўся за хмарамі". Муж рэагуе адразу: "Нічога дзіўнага".

* * *

— Добра, я наймаю пана ў якасці хатняга лекара з ганарарам у 500 рублёў за год. Толькі адкажыце на пытанне, што будзе калі ніхто з маёйц сям'і за гэты час не захварэе?
— Не трэба адразу думаць пра найгоршы варыянт.

* * *

— Які лекар лечыць тваю жонку?
— Доктарка Меланія К. Ужо тры разы наведвала маю жонку і кожны раз прыходзіла ў новым, больш ладным капелюшы.
— А што, жонцы стала лепей?
— Дзе там, у дадатак яна захварэла жаўтухай.

* * *

Уся сям'я сядзіць у салоне за гарбатай. Раптоўна са сцяны зрываецца гадзіннік і падае на тое месца, дзе толькі што сядзела цешча.
— Я ўзаўсёды казаў, што гэты гадзіннік спазняецца – сказаў зяць.

* * *



- Мой мужанёк, ты ўжо маеш такую лысіну! Растлумач, чаму ў мужчын валасы выпадаюць часцей чым у кабет?
- Гэта з тае прычыны, што з-за вас, жанчын, мусім часта скрабаць па галаве.

* * *

Лекар (абследуючы пацыентку): Ці была пані раней у лекара.
Пацыентка (сарамліва): Была, але не на прыёме.

* * *

Паміж бацькамі:
— Чым зарабляе ваш сын?
— Мой з'яўляецца закончаным лекарам.
— Мой таксама з'яўляецца закончаным ... дурасліўцам.

Адной з самых цікавых грамадскіх ініцыятыў у Браславе было выданне сатырычнага тыднёвіка "Браславец" (пазней – "Дух Браслаўца"). Ініцыятарам і душой гэтага выдання з'яўляўся С.Нарбут. Тыднёвік выходзіў маленькім накладам і распаўсюджваўся ў вузкім коле тагачаснай інтэлігенцыі мястэчка. Да нашага часу захаваліся ўсяго толькі некалькі нумароў.

"Браславец" ці "Дух Браслаўца" змяшчаў шаржы і карыкатуры, гумарыстычныя і сатырычныя вершы, песенькі, невялікія нататкі і паведамленні. Героі выдання – людзі з павятовай адміністрацыі, местачковая эліта. Каб разабрацца ў яго матэрыялах, трэба ведаць гэтых людзей, валодаць інфармацыяй пра канкрэтныя падзеі, якія знайшлі адлюстраванне на старонках выдання. Зрабіць гэта праз 70 гадоў вельмі складана. Аднак ёсць у тыднёвіку рэчы, у якіх можна арыентавацца і не зусім дасведчанаму чытачу. Напрыклад, з №12 за 1921 г. даведваемся, што як і зараз, у тыя часы начальства не любіла жартаў над сабой. "Браславец" пісаў: "*...Даносяць, што ў зале староства падчас сустрэчы Новага года на сцэне выступалі нашы артысты, і грамадства павета бурай воплескаў вітала цудоўныя куплеты ў іх выкананні. Аднак некаторыя куплеты выклікалі незадаволенасць пэўных асобаў і грозныя адозвы з'явіліся на браслаўскім даляглядзе. Рэдакцыя дадае: цэнзура не знайшла ў гэтых творах нічога такога, што прыніжала б годнасць герояў куплетаў і прапанавала шаноўным аўтарам даць ласкавую згоду надрукаваць неацэненыя куплеты. На старонках выдання яны будуць увекавечаны як геніяльныя творы гумарыстаў..*."

Амаль у кожным нумары ёсць матэрыял пра Станіслава Нарбута – малюнак, карыкатура ці некалькі радкоў. У №10 ад 1 сакавіка 1922 г. ёсць наступныя радкі, прысвечаныя лекару:

*Доктар павятовы некалі зух і хват*
*Спраўна вылечваў кабет бясплодных*
*Аглядае зараз матуль і немаўлят*
*Герой, які не паддаўся на розныя спакусы.*

А вось як паказаны паводзіны лекара на абедзе ў гонар абранага пасла Вацлава Шадурскага:

*Генерал прамаўляў з ваенным пафасам,*
*Пасля яго пачуўся голас МАРАБУТА,*
*Гэты чалавек, які добра ўжо выпіў, змешваў боршч са смятанай*
*І нагадваў аб багнах, дзе ёсць гумігут.*

*Абагаўляў Графіню і Пасла цалаваў,*
*Ускокваў, рукамі размахваў, як шалёны,*
*Узад-уперад па пакою мітусіўся,*
*Пакуль яго генеральша не прыціснула да сцяны.*

*Нарэшце заплакаў – узыграла кроў,*
*Здавалася, зараз перакуліць талеркі і стол,*
*Выкрыкваў нешта сваё – "пся крэў",*
*Бо дачка з маткай узялі за полы.*



Побач з гэтай вершаванай "замалёўкай" змешчаны малюнак, які паказвае ўтаймаванне Нарбута жонкай і дачкой.



С.Нарбут - казак. У сваякоў на Украіне

# ВЯСЁЛЫЯ БЫВАЛІЦЫ АД З.ЯНУШКЕВІЧА

Шмат цікавых, забаўных гісторый утрымліваюць успаміны былога браслаўскага старосты Зеліслава Янушкевіча. Аўтар, які займаў вышэйшую службовую пасаду ў павеце на працягу амаль дзесяці гадоў (1923–1932 гг.), апісвае такія здарэнні з пачуццём гумару. **Чытачы "Павета" ўжо азнаёміліся з фрагментамі успамінаў Янушкевіча, з якіх відаць, як у Браславе вялася вайна з козамі і як жыхары адной з вулачак мястэчка рыхтаваліся да пракладвання трамвайнай лініі. Ніжэй падаём яшчэ некалькі фрагментаў успамінаў былога старосты.**

## Як удалася дабіцца рэканструкцыі Браслаўскай вузкакалейнай чыгункі

З часоў першай сусветнай вайны засталіся дзве чыгуначныя лініі. Адна, пабудаваная расійскімі войскамі, ішла з Друі да Опсы і далей – да расійскіх пазіцый. Другая была пралажана немцамі з Дукштаў да іх перадавой лініі. Польская адміністрацыя злучыла дзве лініі пасля вайны і выкарыстоўвала як грузавую і пасажырскую трасу. Аднак лінія дзейнічала ненадзейна. Трэба было выпраміць яе і пашырыць трохі каляю. Патрабаваліся сродкі і З.Янушкевіч неаднойчы ўздымаў гэтае пытанне ў віленскіх і варшаўскіх кабінетах, у тым ліку перад міністрам чыгунак Рамоцкім. Справа аднак не вырашалася. Дапамог выпадак: міністр прыехаў на Браслаўшчыну на зімовае паляванне.

Зеліслаў Янушкевіч ўспамінае:

"...Пасля палявання міністр захацеў вярнуцца ў Дукшты не канём, а чыгункай. У вагоне можна было схавацца ад моцнага марозу і ветру. На цягнік селі ў Чапуканах. У дарозе не пашанцавала – вагончык, у якім ехалі, і суседні сышлі з рэек. Здаралася такое даволі часта. Улічваючы, што цягнік цягнуўся не хутчэй за 20-30 кіламетраў на гадзіну, ніхто не пацярпеў. Хуценька выйшаў з вагона і папярэдзіў машыністаў, каб яны казалі міністру, што такія здарэнні ў нас звычайная справа. Потым мабілізаваў пасажыраў і некалькі хлопцаў з суседняй вёскі на працы па вяртанню вагонікаў на рэйкі. Чыгуначнікі вазілі з сабой адпаведныя прыстасаванні. Міністр хацеў выклікаць дапамогу з Дукштаў, але ўдалося яго пераканаць, што неўзабаве цягнік рушыць далей, бо такія "катастрофы" для нас не навіна. Дзесьці праз 40 хвілін цягнік рушыў уперад. Зразумела, што размова ў купэ трымалася вакол адной тэмы – "катастрофы". У жартаўлівай форме паведаміў міністру, што наша чыгунка так звычайна і працуе – па два-тры разы цягнікі "выскакваюць" з рэек. Навакольныя сяляне кляць з гэтага і клянуць усё на свеце, калі іх просяць дапамагчы ставіць вагонікі на месца. Добра, калі ўвогуле ўдасца даехаць да Дукштаў і не завязнуць у сумётах..."

*Апусцім далейшы аповяд З.Янушкевіча, але справа аб рэканструкцыі чыгункі была вырашана.*

## Пра асаблівасці язды па "накатніку"

На Браслаўшчыне захаваліся дзве ваенныя дарогі: Браслаў– Турмонты і Замошша–Далёкія. Былі яны пабудаваны так, каб увесну і ўвосені можна было па іх транспарціраваць цяжкую артылерыю... Па гліністых грунтах, па нізінах укладвалі так званы "накатнік". Спачатку ўздоўж дарогі клаліся 4 бэлькі таўшчынёй 30-40 сантымет-раў. На іх упоперак укладваліся больш тонкія бэлькі (па 25-30 см). Зверху канструкцыя засыпалася жвірам. Новая дарога, узведзеная такім спосабам, была моцнай і надзейнай. Аднак паступова жвір прасыпаўся ў пустоту паміж бэлькамі і накатнік рабоўся голым. Можна сабе ўявіць, як было ехаць па такой дарозе на вазе ці брычцы.

У нейкі дзень у Браславе выбухнула навіна, што адзін з пекараў, спяшаючыся да цяжкахворага, згубіў на "накатніку" сківіцу. Доктар Нарбут энергічна запярэчыў і ўсім паказваў свае штучныя сківіцы. Тым не менш, пляткавалі, што сківіцу знайшлі, дзякуючы заступніцтву перад Нарбутам Святога Антонія, патрона пошукаў згубленых рэчаў. Што тут дзівіцца са сківіцы, калі на "накатніку" можна было пакінуць нават уласныя зубы.

## Жарт на 1-га красавіка

Падчас працы ў Браславе вельмі пасябраваў з рыбакамі. Аднойчы ўвесну да мяне прыбег рыбак – "заводнік" невадаў з возера Дрывяты. Ён паведаміў, што каля вёскі Дубкі на рацэ Друйцы, ужо свабоднай ад лёду, рыбакі ўбачылі пяць лебедзяў. Рыбакі ведалі, што для сваёй арніталагічнай калекцыі даўно шукаў лебедзя, і таму прыехалі за мной. Адразу апрануўся, узяў стрэльбу і паехаў. Рыбака – 80-гадовага старога, рухавага і гаваркога, узяў у санкі... Па прыездзе аказалася, што ніякіх лебедзяў на Друйцы не было, а ўсё гэта – "prima aprilis" – першакрасавіцкі жарт. У мяне з сабой была бутэлька гарэлкі, каб аддзячыць рыбакам за інфармацыю аб лебедзях. Тут жа выпілі яе за ўдалы жарт. Паразмаўлялі, пасмяяліся з маёй даверлівасці. Між іншым, стары да гэтага быў неспакойны, бо баяўся, што я буду злавацца.

## Ці варта ездзіць па мастах на атамабілі?

Неяк выехаў на інспекцыю заходняй чысткі павета з павятовым лекарам Закрэўскім. Ехалі на адкрытай легкавой машыне з вельмі цяжкім перадам. На тэрыторыі Новапагосцкай гміны трэба было пераехаць праз мост на нейкай рачулцы. Рачулка была невялікая, але мост высокі і да 20 метраў у даўжыню. На мост трэба было ўзбірацца ўгору, а з'язджаць уніз. Адразу было відаць, што мост нядаўна рамантавалі: бялелі плахі са свежага дрэва... Ехалі даволі павольна, бо дарога не была добрай. За мастом убачылі войта Новапагосцкай гміны Т.Канаплянскага, які ехаў да моста з нейкім барадачом. Уз'ехалі на мост і на палове яго пачулі трэск. Кіроўца падкінуў "газу". Ужо з'язджалі з моста, калі перад машыны пайшоў уніз, колы нечакана праваліліся. Я і доктар Закрэўскі імгненна выскачылі на бераг. Агледзеліся – аказалася, што рухнуў увесь мост: палова машыны знаходзілася на беразе, другая вісела над ракой, апіраючыся на бэльку. Магло быць так, што ўся машына апынулася б у вадзе. Выратавала якая секунда. Падышоў войт і, збялелы як крэйда, стаў нешта бякаць: маўляў, ён акурат з майстрам прыехаў зрабіць новы мост.

Канечне, мог ён паклапаціцца аб новым мосце трохі раней, але хіба прадбачыш, што менавіта тут будзе праязджаць адзіны ў павеце аўтамабіль. І тут мы пачулі, як цесля кажа кіроўцу: "От чудак ты, бачыш мост – і едзеш...". Усе засмяяліся і наступіла палёгка.

## Для чаго патрэбны туалеты ў вёсцы

Міністр унутраных спраў генерал Славой-Складкоўскі, праяўляючы клопат аб санітарыі вёсак, загадаў будаваць туалеты і тут. Павятовы лекар павінен быў сачыць за выкананнем гэтага распараджэння. Неяк выязджаў па нейкіх справах у павет і павятовы лекар Турута ўгаварыў узяць яго ў машыну, каб зрабіць свае справы ў вёсках па трасе нашага маршрута.

Доктар запытаўся ў гаспадара адной з прыдарожных хат ці збудаваў ён "Славойку", як жартам звалі прыбіральні ў гонар міністра.

– А як жа, паночку, ёсць, ёсць у нас прыбіральня, – пахваліўся гаспадар і павёў лекара паказваць сваё новае збудаванне.

Доктар з прыемнасцю адзначыў, што "Славойка" зграбная і ладная, і дзверы зачынены на замок. Захацеў пераканацца, ці чыста ўнутры.

– А як жа, пане, вельмі чыста, – пацвердзіў гаспадар і загадаў жонцы прынесці ключ.

Сапраўды, у "Славойцы" было чыста, вельмі чыста, а пад дахам сушыліся каўбасы ды шынкі. Абураны лекар стаў тлумачыць селяніну, для чаго будуюць туалеты. Гаспадар выслухаў і застаўся пры сваім: "Казалі пабудаваць, я і пабудаваў, казалі, каб было чыста, я і закрываю на замок, каб было чыста, нават мяса тут трымаю. Але ж, паночку, калі тут усе пачнуць хадзіць па патрэбе – хіба тут будзе чыст?"

Так і разышліся кожны са сваім.

## Гартаючы старыя газеты

### БАБИЙ БУНТ

**Слободка** (Новоалександровского уезда). Недавно здесь произошёл бабий бунт. Храбрые дочери Евы, собравшись в довольно значительном числе в село Слободку, где помещается волостное правление, атаковали последнее. Местное начальство, в лице старшины, старосты и волостного писаря, капитулировало и, оставив своё постоянное убежище, спаслось бегством. После такого неожиданного для баб оборота дела, храбрейшая из них завладела ключами от волостного правления и собственноручно заперла на замок все канцелярские помещения. Дальнейшее развитие этого комического бунта было таково: староста («бунтовщицы все были из его общества) вступил в дипломатические переговоры с предводительницей бабой и убедил её возвратить ему ключи. Остальное же начальство (старшина и писарь) донесли о происшедшем кому следует. Вечером прикатил на место «бунта» земский начальник, а утром следующего дня – чиновник от губернатора. Успокоив шумевших баб и отобрав от них подписки, что они больше не будут «бунтовать», все спокойно разъехались.

Весь этот сыр-бор, по словам «Вит.Г.В.», загорелся от того, что крестьяне получили отказ в обещанной им ранее хлебной ссуде.

«Виленский вестник»
12 ліпеня 1905 года.

## Карыкатуры з польскай перыёдыкі 30-х гадоў



Цяпер гэты твар плача. А калі перакруціць?



Ці мог бы пан фатограф павялічыць гэты трафей?

## КАЛЕЙДАСКОП гістарычных кур'ёзаў Браслаўшчыны

* Цікавы кур'ёз сустракаецца ў інвентары Друі 1643 года. У гэты перыяд збожжа мерылі на бочкі. У інвентары запісана, што ўладальнікі Друі Сапегі ўстанаўліваюць два віды бочак: адна – прыходная, другая – расходная. Прыходная бочка служыла для вымярэння збожжа, якое прымалі ад сялян, і раўнялася 92 гарнцам віленскім. Паводле расходнай бочкі збожжа выдавалі ў пазыку сялянам. У ёй было 69 гарнцаў віленскіх. Хто выйграваў ад такіх мер, было відавочна нават тагачасным непісьменным сялянам. На каго ж быў тады арыентаваны гэты камуфляж нахабнага падману?

* * *

* У 1655 годзе Браслаўскі павет увайшоў у склад Шведскага каралеўства. Праз памежнае мястэчка Плюсы шведы прайшлі ў Браслаў, адтуль у Друю, Дрысу, Дрысвяты, Іказнь і Пеліканы. Шведскі гарнізон атабарыўся ў Друі. Калі мясцовая шляхта сутыкнулася са шведамі, яна стала задумвацца, як жыць з імі ў адной дзяржаве, калі мова абсалютна незразумелая. Тым не менш, нейкім чынам год (з ліпеня 1655 года па ліпень 1656 года) нашы продкі жылі ў шведскай дзяржаве. Магчыма, дыялог быў на такім узроўні, як у паданні пра заснаванне вёскі Яя. Старажылы расказваюць, што сяляне злавілі двух шведаў, якія адбіліся ад войска. Якія пытанні не задавалі чужаземцам, тыя цвярдзілі адно: "Я-я". Жаўнерам далі па кавалку зямлі і яны збудавалі хаты, якія далі пачатак новай вёсцы з незвычайнай назвай Яя.

* * *

* 7 ліпеня 1664 года галоўны суд разгледзеў справу па абвінавачванню маршалка Браслаўскага павета Крыштофа Рудаміна-Дусяцкага, які абразіў суддзяў, назваўшы іх хабарнікамі. Суд прыгаварыў яго выплаціць за кожнага з суддзяў па 48 коп грошаў, сядзець у замку адзін год і 6 тыдняў "и того же часу водлуг выразнаго права посполитого статутового" пры людзях у судзе і ў прысутнасці бакоў залезці пад лаву, вымавіць тымі словамі "иж то зле, а непристойне и легкомысльне мовил" і павінен быў яшчэ па-сабачы пабрахаць.

* * *

* У 1741 годзе трыбунал разглядаў справу аб маёнтку ў Друі. Аднаму з дэпутатаў – Чарніцкаму спецыяльна далі парашок на паслабленне. З тае прычыны дэпутат не змог прыйсці на сесію, а Сапегі большасцю ў адзін голас выйгралі працэс.

* * *

* Выдатны браслаўскі гісторык Отан Гедэман прыводзіць такія звесткі пра адукаванасць браслаўскай шляхты ў XVIII стагоддзі. Пад актам барскай канфедэрацыі (1768 г.) падпісаліся 68 чалавек, у тым ліку 15 паставілі крыжыкі, пад актам таргавіцкай канфедэрацыі адпаведна 107 і 22, пад актам выбараў старосты 362 і 136. У апошнім выпадку працэнт неадукаваных найбольшы – 38 %. О.Гедэман нават знайшоў трох чалавек, якія займалі важныя пасады ў Браслаўскім пав ец е ў 1787 г. і не ўмелі пісаць. Але каб падкрэсліць сваё важнае становішча, яны пад дакументам паставілі не па аднаму, а па тры крыжыкі.

* * *

* Французскія войскі, якія праходзілі праз Браслаўшчыну ў 1812 годзе, рабавалі сялян, мяшчан, маёнткі. Калі французскі генерал, любімчык Напалеона, граф Антон Drouot прыпыніўся ў маёнтку Забалацце, непадалёк ад Перабродздзя, аказалася, што маёнтак учыстую разрабаваны французскімі жаўнерамі. Варварства, з якім гэта было зроблена, настолькі ўразіла генерала, што ён на сталешніцы бюро напісаў некалькі суцяшальных слоў гаспадарам маёнтка Дмахоўскім. Генерал паказаў сябе сапраўдным рыцарам, чаго не скажаш аб яго земляках – жаўнерах.

* * *

* У паўстанне 1830–1831 гг. на Браслаўшчыне былі свае героі і антыгероі. Адзін з антыгерояў – відзаўскі равін Мойша Д. Ён напісаў паперу ўладам, у якой адзначыў свае заслугі ў справе задушэння паўстання і прасіў упрыгожыць яго грудзі медалём. Відаць, не такія і вялікія былі заслугі, бо замест медаля равін атрымаў некалькі сутак арышту за нахабства і выхваленне.

* * *

У XIX ст. уладальнікі маёнтка Бяльмонты перасялілі частку сялян з в. Азяравы на землі в. Ахрэмаўцы. Новае паселішча назвалі па жаданні ўладальнікаў немудрагеліста – Новая Вёска. Але новая назва сярод сялян не прыжылася, якія між сабой звалі вёску Азяраўцы. Гэта назва нагадвала ім пакінутыя мясціны. Аднак на картах існавала Новая Вёска. Старажылы распавядаюць, што немцы ў час першай сусветнай вайны з-за гэтага трапілі ў камічную сітуацыю. Афіцэр з картай ніяк не мог зразумець, куды падзелася Новая Вёска і чаму яго не разумеюць тутэйшыя жыхары. Дзе там педантам немцам зразумець шырокую славянскую натуру.

* * *

* Як і паўсюль, яўрэі Браслава жылі абшчынай, у якой існавала самакіраванне. Больш заможныя павінны былі дапамагаць бедным. Гэта гісторыя адбылася ў 30-я гг. XX ст. Жыхар Браслава Ульман, які актыўна займаўся грамадскімі справамі, пайшоў да заможнага яўрэя Даговіча, каб папрасіць сродкаў на дровы для бедных сем'яў. Даговіч жыў у прыгожым двухпавярховым асабняку. Гаспадар паскардзіўся Ульману, што сам не можа належным чынам нацепліць хату і грошы даць адмовіўся. Ульман пайшоў на рынак, купіў два вазы дроў і загадаў адвесці іх Даговічу. Усё мястэчка стала смяяцца са скнапнага гаспадара. Пасля гэтага Даговіч ахвяраваў даволі значную суму грошы для бедных.

* * *

* Недзе ў канцы 20-х – пачатку 30-х гадоў у Браслаў сталі прывозіць кіно. Пад глядзельную залу прыстасавалі вялікую будыніну недалёка ад млына. Пры ўваходзе прыбудавалі будачку для біліцёра. Білеты даручылі прадаваць Ёську

Штамлюку, які прадаваў білеты ў лазню. Адзін з першых сеансаў. Да будкі падыходзіць бараначнік Цэпелевіч, глядзіць у акенца на білецёра і кажа: “Дзіўна, будкі розныя, а сабака адзін і той жа”. Гэты жарт гледачы браслаўскага кіно памяталі не адзін год.

* * *

У 70-х гадах XX ст. на Замкавай гары ў Браславе здымалі кадры для кінастужкі “Цуд з касічкамі”. Пры здымках выкарыстоўвалі верталёт. У разгар працы ў вінтакрылай машыны адказаў рухавік і яна абрынулася ўніз. Вышыня была невялікая, верталёт упаў на вал гарадзішча і пакаціўся ўніз па стромкаму схілу, прыпыніўшыся перад хатай. Ад аварыі найбольш пацярпела прыбіральня, ад якой засталіся толькі раструшчаныя дошкі. Як потым казалі ў мястэчку, за некалькі хвілін да таго адтуль выйшаў “аблегчаны” гаспадар... Невядома, ці наважыўся хто павіншаваць небараку з цудоўным выратаваннем.

* * *

Яшчэ адна гісторыя здарылася падчас здымак у Браславе эпізодаў фільма “Вайна пад стрэхамі”. Сюжэт стужкі звязаны з вайной. На вуліцах мястэчка з’явіліся пераапранутыя ў эсэсаўскую форму акцёры і ўдзельнікі масавых сцэн. Відаць, усяго гэтага не ведаў стары яўрэй Самавар, які загадваў на рынку нейкім шапікам. Праз акенца сваёй установы Самавар раптам убачыў гітлераўцаў на матацыклах. Потым сведкі расказвалі, як са збялелым тварам Самавар дабег да свайго дома і распачаў эвакуацыю. Дзякуй Богу, неўзабаве ўсё высветлілася.

* * *

Вядома, што з устанаўленнем савецкай улады селянін страціў самастойнасць. З’явіліся пасады дарадчыкаў і наглядчыкаў, якія лепш ведалі, калі садзіць і што садзіць, калі ўбіраць, якую жывёлу гадаваць. Як паказаў досвед, такая апека так і не дала чакаемых вынікаў.

Некаторыя эпізоды кіравання сялянамі падобны да анекдатычных.



Фотаздымак з архіва Т.Панцялейкі

У дакументах Браслаўскага райвыканкама за 50-я гг. XX ст. давялося бачыць пратакол пасяджэння райвыканкама, прысвечаны рацыянальнай арганізацыі працы элітнага жарабца, які павінен быў задаволіць лепшых кабыліц раёна. З пратакола не бачна, колькі часу пайшло ў дзяржаўных мужоў па размеркаванне рабочага графіка жарабца і як потым кантралявалася прынятае рашэнне. Надзея на тое, што ніхто з кабыліц не быў пакрыўджаны.

**Падабраў і апрацаваў К.Шыдлоўскі**

---




## Кажух

*Хадзілі па вёсках краўцы-яўрэі і шылі гаспадарам кажухі за стол і невялікую плату. Зайшоў такі да майго дзеда, які жыў ля Друі, і падрадзіўся справіць яму абноўку. Зняў мерку, дзень страчыў на машынцы, раніцай дае гатовы. А кажушок аказаўся такі малы, што толькі дзіцёнку налезе і то не кожнаму. Пакруціў дзед яго туды-сюды і так асцярожна прапаноўвае:*

*— Абрамка, бяры ты сабе яго замест платы.*

*— (кравец пакрыўджана) Слухай, а мне не абідна?*

*Ад Дзіны Ваштаевіч, в.Ёдлавічы*

* * *

## Кумпякі

*У вёсцы Ёдлавічы павесіў на дзверы мужык сушыць 2 кумпякі, каб потым павэндзіць. І раптам у хату завальвае цэлы гурт цыганоў з гармонікам — танцуюць, спяваюць, цягаюць за рукаў. Гаспадар нічога не разумее, а тут яшчэ цыганёнак забягае і таксама ўпрысядку з дзіўнай прыпеўкай: “Ой, высока — не дастану, Ой, высока — не дастану...”. А стары цыган з гармонікам — яму ў адказ: “Не падставіш — не дастанеш, Не падставіш — не дастанеш!”.*

*Цыганёнак — шась за дзверы і праз пару хвілін назад і зноў у скокі: “Як падставіў — так дастаў! Як падставіў — так дастаў!”.*

*Тут артыстаў і след прастыў. Выйшаў потым ашалелы мужык на двор — а кумпякоў і няма...*

*Ад Елісея Бунты, в.Пагошча*

## Праўду сказаў

*Купляе мужык у цыгана каня. Усё, здаецца, у жывёлы на месцы. Мужык:*

*— Цыган! Купляю, скажы толькі, што ў яго не так.*

*— Скажу праўду: жалеза не есць і на дрэва не лезе.*

*— Ну-у, хіба ж тое дрэнна?*

*Не падмануў цыган: конь цуглі ў рот не браў і на мост не ішоў.*

*Ад Елісея Бунты, в.Пагошча*

* * *

## Аператыўнасць

*Пасля рэвалюцыі распрадаў пагошчанскі пан танна сялянам зямлю і падаўся на Захад. Едзем з бацькам назаўтра каля маёнтка, а мужыкі пачынаюць разбіраць панскі каровнік, дарэчы, немаленькі. Вяртаемся вечарам таго ж дня, а там — толькі голы фундамент: ні цаглінкі, ні цвічка, ні шчэпачкі.*

*Ад Уладзіміра Пятушкі, в.Новая.*

* * *

## Хітрун

*У нямецкую акупацыю ў вёску прыехалі нямецкія карнікі, павыганялі гаспадароў з хат і сталі на пастой.*

*Была восень, сяляне туліліся па лазнях ці хлявах разам са скацінай. А ў Валодзі немцаў няма. Суседзі да яго:*

*— Як табе так удалося?*

*— Ды заходзяць 2 немцы і пытаюцца: "Клёп ест?" А я ім: "Ой, паночкі, чыста заелі, хоць хату палі!" І давай чэсацца ўсюды.*

*Гасцей як ветрам здула.*

*Ад Елісея Бунты, в.Пагошча*

## Нямецкая пунктуальнасць

*Прымушалі вайной немцы працаваць на лесапілцы. Немец-упраўляючы за пару хвілін да пачатку працы становіўся з гадзіннікам і дубінкай ля ўваходу. Той, хто спазніўся на 1 хвіліну, атрымліваў па спіне 1 удар, на 2 хвіліны — 2 і г.д. На наступны дзень працу можна было пачынаць раней ледзь не на паўгадзіны.*

*Ад Івана Шаломскага,*
*в.Пагошча*

* * *

## Дзедава мара

*У 60-х гадах XX стагоддзя мой дзед — удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі сказаў:*

*— Сустрэў бы таго бальшавіцкага агітатара, што клікаў у 1917-м да рэвалюцыі, от даў бы па мордзе!*

*— Чаму?!*

*— Абяцаў: "Адбяром усё ў буржуяў — 200 гадоў працаваць не будзем!.."*

*Ад Івана Шаломскага, в.Пагошча*

* * *

## Дысцыпліна

*Хадзіў пры Польшчы ў Канстанцінскую школу. Аднойчы на перапынку выскачыў на вуліцу праз акно. На пачатку ўрока настаўнік заціснуў паміж каленькамі і як дасць па мяккаму месцу жалезнай лінейкай, пад кожны ўдар прыгаворвае:*

*— Вукны для відзэння,*
*дзвіжы для ходзэння!*

*Ад Альфонса Бялуся,*
*в.Пагошча*

## "Маладзіцы"

*Вярнулася ў 1944 годзе савецкая ўлада на Мёршчыну, пачалі сялянам выдаваць дакументы — узрост ставілі са слоў уладальніка. Мужыкі старылі сябе, як маглі больш — каб не трапіць у прызыўны ўзрост, а кабеты дружна пачалі "маладзіцца" — на 3-6 гадоў. А хутка прыйшлі калгасы з амаль дармавой працай, выйсці з якіх можна было толькі на пенсію...*

*Ад Елісея Бунты, в.Пагошча*

* * *

## Тармазнулі

*Вайной паліцэйская карная часць у Браславе атрымала заданне знішчыць вёску за сувязь з партызанамі. Каб паспець папярэдзіць асуджаных, падпольшчыкі вырашылі затрымаць карнікаў, падмяшаўшы ім у ежу паслабляльнага. Кажуць, што рух калоны быў такім марудным, што можна было ўцячы не толькі ў лес, але і ў суседні раён.*

*Ад Іоана Шаломскага,*
*в.Пагошча*

* * *

## Сумленне

*Выбіраецца тайком старшыня калгаса ранкам гародамі ад вясёлай маладзіцы і натыкаецца на суседку. Не разгубіўся і дае той дваццацьпятную купюру (на той час — немалыя грошы):*

*— Пятроўна, вазьмі — толькі маўчы!*

*Тая пакруціла нерашуча паперку ў руках і з уздыхам вяртае:*

*— Забяры, Іванавіч, я ж усё роўна не вытрымаю...*

*Ад Елісея Бунты, в.Пагошча*

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: braslavmc@vitebsk.unibel.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»